

Магілеўскі
# ВЫБАР
№ 7 (45)
Красавік
2015 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна

## Адбыўся сход

20 сакавіка ў Магілёве адбыўся рэгіянальны сход мясцовых сяброў Грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў".

Мерапрыемства прайшло ў Грамадскім цэнтры "Кола", усяго ў ім прыняло ўдзел больш за трыццаць сяброў ГА "БАЖ" і запрошаных гасцей з розных рэгіёнаў Магілёўшчыны. У госці да магілёўскіх журналістаў таксама завіталі і сябры праўлення ГА "БАЖ" з Мінска – намесніца старшыні арганізацыі Аліна Суравец і вядомая беларуская журналістка Таццяна Мельнічук.

Прысутныя на сходзе сябры ГА "БАЖ" актыўна і зацікаўлена абмеркавалі дзейнасць арганізацыі ў мінулым годзе, выказалі свае прапановы наконт таго, якім накірункам працы ГА "БАЖ" павінна надаваць больш увагі ў бліжэйшы перыяд. Аліна Суравец і Таццяна Мельнічук адказалі на шматлікія пытанні журналістаў Магілёўшчыны.

На сходзе было прынята рашэнне стварыць у асяродку магілёўскіх БАЖаўцаў адмысловую камісію па этыцы, у склад якой было вылучана і абрана тры мясцовых журналіста – Уладзімір Лапцэвіч, Мікалай Яцкоў і Аляксандр Буракоў.

Таксама магілёўскія БАЖаўцы разгледзелі заявы на ўступ у ГА "БАЖ" і прынялі рашэнне падтрымаць перад праўленнем арганізацыі ўваход у яе склад у якасці новых сяброў Наталлі Плоткінай, Максіма Алямоўскага і Вячаслава Сікоры.

БАЖаўцы Магілёўшчыны на сходзе вылучылі і абралі дэлегатаў на з'езд ГА "БАЖ", які адбудзецца 24 красавіка. Дэлегатамі былі абраныя магілёўскія журналісты Уладзімір Лапцэвіч і Дзяніс Васількоў, рэдактар горацкай газеты "Узгорак" Галіна Будная і журналіст з Бялыніцкага раёна Барыс Вырвіч.

*Барыс ВЫРВІЧ.*

## Адкуль такое ліхалецце на Шклоў?



***Напрыканцы лютага на базе Шклоўскага раёна адбыўся выязны семінар-вучоба старшынь раённых выканаўчых камітэтаў, асоб, уключаных у рэзерв кадраў на замяшчэнне пасад старшынь райвыканкамаў, кіраўнікоў сельскагаспадарчых арганізацый Мінскай вобласці. Гасцей з Міншчыны старшыня Шклоўскага райвыканкаму А.Бойка сустракаў з караваем ажно на мяжы Магілёўскага і Шклоўскага раёнаў.***

Удзельнікі семінару наведалі шэраг аб'ектаў раёна. Такія, як фермерская гаспадарка "Дыяна", завод газетнай паперы, ААТ "Магілёўаблллён", ААТ "Александрыйскае", ЗАТ "АСБ-Агра Гарадзец".

Наколькі карысным для гасцей Шклоўшчыны было наведванне дадзеных прадпрыемстваў, могуць адказаць толькі самі ўдзельнікі семінару. Але ж у кулуарах, па вяртанні да дому, сярод іх прагучалі словы непаразумення, што для іх не была арганізавана экскурсія па г.Шклову, які мае такую вялікую гісторыю, не адбылося наведванне аб'ектаў сацыяльнай інфраструктуры.

У мінулыя гады, для ўсіх гасцей горада і раёна па традыцыі, абавязкова ладзіліся экскурсіі па гораду, дзе паказваліся разнастайныя гістарычныя аб'екты, а прадстаўнікі шклоўскай вертыкалі заўсёды не абміналі магчымасць павыхваляцца перад разнастайнымі гасцямі дзеючымі і будуемымі сацыяльнымі аб'ектамі, добраўпарадкаванасцю і чысцінёй вуліц…

Што ж такое здарылася ў Шклове, што раённыя ўлады адмовіліся ад такой традыцыі?

Ды ўсё вельмі проста. За апошні час у плане добраўпарадкаванасці ў параўнанні з іншымі гарадамі краіны Шклоў здаў свае "лідзіруючыя" пазіцыі і знешне стаў выглядаць горш, чым іншыя раённыя цэнтры, якія нават ніколі не рыхтаваліся ні да рэспубліканскага свята "Дажынкі", ні да "Дня пісьменства".

Нават на вуліцы вакол гімназіі, дзе размешчаны галоўны гістарычны аб'ект горада - Ратуша, чынавенству стала сорамна весці гасцей. Падобным чынам выглядае і тэрыторыя каля раённага Дома культуры.

А што ўжо казаць пра лазню, або гарадскі басейн, дзе на галаву любога наведвальніка са сценаў будынка, у аконных праёмах якога гадамі растуць дрэвы, можа зваліцца кавалак або і цэлая цагліна.

Не пахвалішся і будуемым лядовым палацам. Бо аб'ект павінен быў здадзены ў эксплуатацыю яшчэ тры гады таму назад. І за гады "замарожвання", будаўнічая пляцоўка ператварылася ў палігон для цвёрдых бытавых адыходаў.

Нават некаторыя аб'екты добраўпарадкавання го-



горада, што былі пабудаваны або рэканструяваны ў час падрыхтоўкі да “Дажынак” праз безалабернасць раённага чынавенства ператварыліся ў пастаяннадзеючыя будаўнічыя пляцоўкі. А ад той прыгажосці аб’ектаў, калі яны здаваліся ў эксплуатацыю, засталіся толькі ўспаміны.

Да прыкладу, варта звярнуць увагу на тэрыторыю пляцовак уздоўж вуліцы Пралетарскай на перакрыжаванні з Ганчарнай пры ўездзе ў цэнтральную частку горада ад дняпроўскага маста. Што толькі не тварылі тут будаўнікі па распараджэннях розных старшынь райвыканкама. Кожны старшыня імкнуўся пакінуць у гэтым месцы, як памяць для гараджан аб часах сваёй працы ў Шклове, за кошт раённага бюджэту якісьці аб’ект. Аднаму захацелася пабудаваць фантан. Другому, на гэтым жа месцы – “мельнічнае” кола. Трэцяму – салдата–грэнадзёра ў гонар вайны 1812 года. У выніку – патрачаны вялікія фінансавыя сродкі, ні адзін аб’ект не даведзены да ладу. А аб бязглуздым будаўніцтве да гэтай пары нагадваюць былыя раскопкі каля дамоў №3 і №4 па вул.Пралетарскай, дзякуючы якім шклаўчане і ўспамінаюць, толькі нядобрым словам, гэтых чыноўнікаў, абмінаючы яміны на тратуарных дарожках.

І якую вуліцу Шклова не вазьмі, усюды можна пабачыць падобныя сляды ўмяшальніцтва шклоўскага чынавенства ў добраўпарадкаванне гарадскіх тэрыторый, калі яны прымаюць рашэнні, або даюць дазвол на разнастайныя раскопкі і будаўніцтва, не выконваючы і не патрабуючы своечасовага і якаснага завяршэння гэтых работ. Такім чынам знішчаецца прыгажосць, марнуюцца фінансы, укладзеныя ў падрыхтоўку горада да святаў.

Падобнага варварства не магчыма пабачыць ні ў адным іншым раённым цэнтры Магілёўшчыны. І ў той жа час ні ў адным раёне Беларусі не назіраецца такога крыміналітэту сярод чынавенства райвыканкаму, як у Шклове, дзе за апошнія чатыры гады ўзбуджаны крымінальныя справы ажно па чатырох прадстаўніках кіраўніцтва, і на гарызонце ўжо праглядаюцца яшчэ новыя.

Чамусці не жадаюць заўважаць разгул карупцыі і марнатраўства сярод чынавенства на Шклоўшчыне ні прадстаўнік Прэзідэнта Г.М.Лаўранкоў, ні кіраўніцтва вобласці, ні ў адміністрацыі Прэзідэнта, і на месца парушыўшых закон прызначаюцца новыя, з ужо раней “падмочанай” рэпутацыяй. Адбываецца своеасаблівы кругаварот чынавенства па вертыкалі.

І на колькі хопіць трываласці Шклоўшчыне, каб перажыць гэтае ліхалецце?

*Рыгор КАСТУСЁЎ.*

---




**Сябра руху «За свабоду» Андрэй Юркоў 25 сакавіка віншаваў з Днём волі студэнтаў Горацкай сельгасакадэміі, раздаючы ім паштоўкі. Гэта і стала падставай, каб выклікаць яго да ўчастковага міліцыянера. А.Юркоў свае дзеянні тлумачыў тым, што вырашыў паштоўкамі, якія вырабіў сам, нагадаць студэнтам пра знакавы дзень у беларускай гісторыі. *«Я ў сваіх дзеяннях не бачу правапарушэння. Нічога кепскага ў паштоўках не было напісана - толькі гістарычныя факты пра Беларускую Народную Рэспубліку і паўстанца-каліноўца Войцэха Дамарацкага, які загінуў у Горках. Ён пахаваны на тэрыторыі акадэмічнага дэндрапарку»,* - зазначае Андрэй Юркоў.**

---

## АДУСЮЛЬ ПАКРЫХУ

**За студзень 2015 года стратнымі былі 211 арганізацый вобласці, або 24,9% ад агульнай колькасці арганізацый, якія ўлічваюцца ў бягучым парадку (за студзень 2014 г. - 120 арганізацый, або 14,2%). Сума чыстай страты стратных арганізацый за студзень 2015 г склала 5 800.6 млрд. рублёў, або ў 25,3 разоў больш, чым за студзень 2014 года.**

**У Магілёўскай вобласці за парушэнні тэрмінаў выплаты заработнай платы ў 2015 г. да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты 113 службовых асоб. Па выніках трох месяцаў пратэрмінаваную запазычанасць па выплаце зарплаты мелі 20 арганізацый рэгіёну. У ліку найбольш праблемных ААТ "Магілёўскі завод "Строммашына", ЗАТ "Вяснянка", ЗАТ "Глускдрэў ", ААТ" ФанДОК".**

**За парушэнні прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці як юрыдычныя асобы, для якіх памер штрафу дасягае 100 базавых велічынь, так і службовыя. Рублёвыя пакаранне для апошніх вар'іруецца ад 4 да 20 базавых (цяпер адна базавая велічыня складае Br180 тыс).**

**Не менш важная задача органаў сацабароны - адсочваць захаванне мінімальных сацыяльных стандартаў у галіне аплаты працы. На сённяшні дзень памер мінімальнай зарплаты складае Br2 млн 100 тыс. Калі чалавек спраўна выконвае нормы працоўнага часу і выпрацоўкі, ніжэй гэтай сумы ён не павінен атрымаць. Гэта патрабаванне з'яўляецца абавязковым для наймальнікаў усіх формаў уласнасці. Аднак, нягледзячы на выразна пэўную мінімальную планку заработнай платы, у рэгіёне фіксуюцца выпадкі парушэнняў. Так, па выніках 2014 г. ў 32 арганізацыях вобласці ўстаноўлены факты невыканання гэтых правілаў у дачыненні да 70 чалавек. Маніторынг выканання мінімальных стандартаў пры выплаце зарплаты будзе працягнуты і ў бягучым годзе.**

**Намінальная налічаная заработная плата па рэгіёне ў студзені бягучага года была роўная Br5 млн 266 тыс., у лютым - Br5 млн. 289 тыс. Тэмп яе росту да аналагічных перыядаў 2014 г. склаў адпаведна 111% і 110,8%. Па ўзроўні зарплаты сярод абласцей рэспублікі Магілёўская займае сёння пятае месца.**

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*

# Пясец падкраўся нечакана

Белстат апублікаваў шакуючыя дадзеныя пра фінансавыя вынікі працы беларускіх кампаній у студзені 2015 года.

Чыстыя страты амаль 8000 кампаній краіны склалі за месяц 42,9 трыльёна рублёў, гэта $2,98 мільярда ў эквіваленце. У справаздачу не ўваходзяць банкі, страхавыя і бюджэтныя арганізацыі, а таксама дробны бізнэс, паведамляе газета “Наша ніва”.

Стратнымі былі 28,6% кампаній. Кожная з іх у сярэднім згубіла за студзень па $1,7 млн. Для параўнання, год таму беларускія кампаніі мелі чысты прыбытак памерам каля $260 мільёнаў.

*«Львіная доля – страты на курсавой розніцы,* - тлумачыць эканаміст Сяргей Чалы. – *Гэта бухгалтарскія страты, якія можна будзе спісаць цягам двух гадоў у любым графіку, змяншаючы прыбытак».*

І хоць эканаміст падкрэслівае, што гэта вынік курсавой розніцы, а не ўмоў гаспадарання, беларускім прадпрыемствам ад гэтага не лягчэй, бо яны ў любым выпадку сталі нашмат бліжэй да банкруцтва.

Згодна прагнозаў місіі МВФ, у 2015 годзе спад эканомікі Беларусі складзе два працэнты і ў бліжэйшыя пяць гадоў тэмпы роста эканомікі краіны застануцца вельмі нізкімі, калі ўлады не пачнуць структурныя рэформы.

Здаецца, ну навошта тут слухаць гэтых “праклятых буржуінаў” з іх негатыўнымі прагнозамі, калі мы самі вельмі разумныя і прагнозы ў нас нашмат лепшыя – сэрца радуецца, калі ўзгадваеш, як пяць гадоў таму перад прэзідэнцкімі выбарамі нечуваны росквіт эканомікі краіны і сярэдні заробак у 1000 буржуінскіх зялёных паперак у 2015 годзе нашы высокія чыноўнікі абяцалі.

Ну не атрымалася, - эканоміка ў поўным азадку, а заробак да 400 долараў не дацягвае, затое як прыемна было цікавыя казкі слухаць.

А гэтыя ж капіталісты з МВФ яшчэ ўсё пужаюць поўным ступарам квітнеючай эканомікі Беларусі, калі беларускія ўлады працягнуць рухацца цяперашнім курсам. І, нажаль, даводзіцца гэтых свалачугаў слухаць, бо інакш яны не дадуць новы крэдыт - і тады нашаму квітненню можа прыйсці поўны “пісец”.



Здравствуйте, я - песец
Можно к вам?

Бо, паважаныя чытачы, за апошнія гады наша квітнеючая краіна нахапала столькі крэдытаў, што сукупны знешні доўг Беларусі склаў больш за 40 мільярдаў долараў і штогод Беларусь вымушана аплачваць каля 500 мільёнаў долараў адсоткаў толькі за карыстанне пазычанымі грашыма. Наогул жа кожны год патрэбна выплачваць каля чатырох мільярдаў зялёных грошай на пагашэнне і абслугоўванне пазыкаў.

А дзе ж гэтыя грошы браць, калі эканоміка знаходзіцца самі ведаеце дзе? Зразумела, трэба выпрошваць новыя крэдыты.

Пазней жа можна і пабрахаць на “праклятых буржуінаў” з МВФ, якія будуць патрабаваць абмежаваць рост заробкаў, падвысіць аплаты за камунальныя паслугі, спыніць датацыі і субсідыі гаспадаркі. Бо гэтыя ж нягоднікі захочуць, каб ім пазычаныя грошы павярнулі. Ну а нашыя слаўныя ўлады, якія гэтыя грошы, як звычайна, “пратрахаюць” на падтрымку сельскай гаспадаркі, БРСМ, праваахоўных органаў, будаўніцтва лядовых палацаў і новых рэзідэнцый, будуць ні ў чым “невінаватыя”. Гэта ж капіталісты, свалачугі, не хочуць займацца дабрачыннасцю і проста падарыць нам гэтыя грошы, а хочуць, гады, каб мы ім іх жа долары яшчэ і павярнулі. Праўда, мы самі чамусьці, калі пазычаем сябру ці суседу,таксама спадзяёмся, што ён грошы паверне, а не прап’е ці прагуляе…

Сітуацыя ў нашай роднай Магілёўскай вобласці наогул вельмі складаная. Ужо ў мінулым 2014 г. валавы рэгіянальны прадукт зменшыўся на 2,5%. Зараз большасць прамысловых прадпрыемстваў вобласці літаральна выжывае, яны напалову стаяць, працуючы па 3-4 дні на тыдзень. Сітуацыя ў сельскай гаспадарцы не лепшая – па выніках працы за мінулы год страты АПК вобласці перавалілі за 200 мільярдаў рублёў. З 167 сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Магілёўскай вобласці 103, альбо 62%, былі стратнымі. У нашым родным Бялыніцкім раёне з шасці сельскагаспадарчых арганізацый з сістэмы Мінсельгасхарчу ў мінулым годзе стратнымі былі тры, іх чыстыя страты склалі 4 094 мільёнаў рублёў. Між тым Бялыніцкі раён лічыцца адным з лепшых у Магілёўскай вобласці…

Зараз бялыніцкія чыноўнікі ў прыватных размовах абмяркоўваюць звальненне з пасады былога начальніка упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Бялыніцкага райвыканкама Аляксея Цапко, і кажуць пра тое, што ўжо бліжэйшым часам прыйдуць новыя кіраўнікі і ў некаторыя з прадпрыемстваў і арганізацый раёна. Аднак ці будзе з гэтага нейкі толк, я асабіста вельмі сумняваюся. Будаваць вялікія планы мы добра навучыліся, аднак без правядзення сапраўдных рэформ змена кіраўнікоў нічога не дасць.

**Іван БАРЫСАЎ.**

# О чём молчат санврачи

*«Вам, россиянам, далеко до нашей продукции по одной только причине: когда Союз (СССР, -* автор*) развалился, вы перешли на технические условия, понизив уровень требований к продуктам питания, а мы сохранили, благодаря Лукашенко, государственные стандарты».*

А. Лукашенко на пресс-конференции для российских региональных СМИ *(interfax.bu)*

## В ЧУЖОМ ГЛАЗУ

«Качество и безопасность товаров», - под таким названием на страницах могилёвской областной аграрной газеты «Земля и люди» («ЗМ») 18 февраля этого года появилась статья заместителя главного врача УЗ «Могилёвский облЦГЭ и ОЗ» Е.Каминской. В ней речь идёт о том, как в нашей области ведётся работа по борьбе с нарушениями требований законодательства в плане санитарно-эпидемиологического благополучия населения. Попросту говоря, нашего с вами здоровья, которое может пострадать из-за появления на торговых прилавках некачественной продукции.

На основании сказанного Е. Каминской, за прошлый год органами госсаннадзора в области обследовано более 2500 субъектов, реализующих товары импортного производства. В 56,5% случаев установлены нарушения. Они в основном касались неудовлетворительных условий хранения продукции, реализации продуктов питания с истёкшими сроками годности, без маркировки или с несоответствующей действительности информацией, отсутствия документов, подтверждающих качество и безопасность продукции.

Также в прошлом году лабораторно исследовано более 3700 проб продукции (товаров) иностранного производства. «Неудовлетворительными оказались 119 проб. Выявлено 72 пробы импортной пищевой продукции, не соответствующей ТНПА. Так например, 19 несоответствующих проб составили сухофрукты (8 проб производства Турции не соответствовали требованиям по маркировке, в 2-х случаях установлено превышение допустимого содержания сернистой кислоты); 18 проб – кондитерские изделия 914 производств России не соответствовали требованиям по маркировке, а также 3 пробы по микробиологическим показателям), - сообщает «ЗМ» своим читателям.

Далее говорится о том, что по фактам выявленных нарушений, а также при лабораторном подтверждении неудовлетворительного качества импортной продукции, органами госсаннадзора прекращена реализация почти двух тысяч изделий для детей, 136 недоброкачественных товаров непродовольственной группы, более 2,5 тонны продовольственного сырья и пищевых продуктов. Далее Е. Каминская уверяет, что органами госсаннадзора проводится совместная работа по выявлению и пресечению нарушений с органами Госстанадарта, территориальными налоговыми органами, управлениями (отделами) торговли и услуг исполкомов, территориальными органами ветеринарного надзора, правоохранительными органами.

## НЕ ДЛЯ ШИРОКОЙ ОБЩЕСТВЕННОСТИ

Всё это прекрасно и радует. Но согласно статистическим данным, около 80% продуктов, которые реализуют торговые объекты нашей области для населения, составляют товары белорусского производства. А по таким товарным группам как молочные, мясные и колбасные изделия, их процент приближается к 100. И нашим гражданам хотелось бы знать, насколько эти продукты соответствуют требованиям законодательства в области санитарно-эпидемиологического благополучия.

И здесь мы наталкиваемся на практически полное отсутствие официальной информации, доступной для широкой общественности. По крайней мере, когда автор этих строк попытался найти хоть какую-то информацию у специалистов районных центров гигиены и эпидемиологии Климовичского, Кричевского, Чериковского, Краснопольского районов о содержании в молочной продукции отечественного производства антибиотиков и других вредных для нашего здоровья веществ, то там с опаской стали выяснять, для кого и для чего такая информация нужна? А когда узнали, то однозначно заверили, что такого контроля не осуществляют. Что этим занимаются ветеринарные службы и перерабатывающие предприятия. Попытка найти нужную информацию по указанным специалистами санстанций адресам тоже оказалась безуспешной, тем более для журналиста независимого СМИ. И это неслучайно.

По мнению заведующего сектором качества Института системных исследований в АПК НАН Беларуси, кандидата экономических наук П. Расторгуева, в Беларуси нет централизованного и системного мониторинга качества и безопасности сельскохозяйственной продукции. В результате соответствующая информация носит разобщённый характер и не совсем соответствует действительности. «Например, проверка, проведенная Минсельхозпродом, выявила несоответствие декларируемых и реальных показателей качества молочного сырья. Так, в Смолевичском районе на переработку поступало только 3,0% молока высшего сорта, в Воложинском - 14,0% (тогда как по информации перерабатывающих предприятий - соответственно 82,1 и 90,0%). По оценкам специалистов Минсельхозпрода, в среднем по стране фактический удельный вес молока высшего сорта составлял около 20,0% (в то время как в отчётных данных указывалось значение 57,1%), - пишет он в статье «Тенденции формирования качества основных видов сельскохозяйственной продукции в Беларуси» (см. журнал «Экономика сельского хозяйства» №7 за 2014 год).

Для того, чтобы понять, насколько важна для населения своевременная и достоверная информация о ситуации с качеством молока, поступающего на переработку, мы немного поговорим по данному вопросу.

## О КАЧЕСТВЕ МОЛОКА

Одним из наиболее приемлемых вариантов оценки качества молока, из которого вырабатывается множество наименований

продуктов, попадающих на наш стол, является оценка его соответствия требованиям действующих технических нормативных правовых актов в области технического нормирования и стандартизации. Несмотря на то, что ТНПА содержат, как правило, достаточно обобщённые характеристики потребительских свойств продукции, данный метод оценки качества имеет преимущества вследствие возможности проведения сравнительного анализа как на уровне республики, так и другими странами. В отношении молока таким нормативным документом является СТБ 1598—2006 «Молоко коровье. Требования при закупках». В соответствии с требованием вышеуказанного документа молоко в Беларуси делится на: экстра (введено с 2008 г.), высший, первый, второй сорт. Сорт «экстра» предполагает низкое содержание числа соматических клеток (ЧСК) (не более 300000 на 1 куб. см.). Для высшего сорта норма ЧСК составляет не более 500000 в куб. см. Соматические клетки – это клетки тела животного. В молоке они присутствуют из-за постоянного обновления клеток ткани животного, вымени, сосков и т.д. При высоком содержании ЧСК в молоке можно практически однозначно говорить, что мы имеем дело с больным животным. Большое количество ЧСК ведёт к снижению удоя. Например, с увеличением ЧСК со 100000 до 270000 годовой удой от коровы снижается на 250 кг. При ЧСК более 500000 качество молока снижается из-за пониженного содержания казеина, молочного сахара, кальция, магния, фосфора. Из такого молока невозможно получить высококачественные молочные продукты, в том числе твёрдые сыры. Важным показателем качества молока является бактериальная обсеменённость (число микроорганизмов в виде бактерий, дрожжевых и плесневых грибков и т.д.) в 1 куб. см. Для сорта «экстра» этот показатель не должен превышать 100000 на 1 см. куб. Для высшего - 300000. Высокая бактериальная обсеменённость приводит к ухудшению вкуса, снижает питательную ценность изготовляемых продуктов, значительно сокращает сроки хранения. На этот показатель сильно влияет заболеваемость коров маститом. Кроме того, важно обеспечить хранение молока при температуре не более +4 С.

Еще одним из важнейших показателей качества молока является содержание в нём ингибиторов (антибиотиков и других лекарств, моющих средств и т.д.). Антибиотики препятствуют переработке молока на молокозаводах. Поэтому они строго контролируют этот показатель. Антибиотики практически не удаляются в процессе переработки молока в молочную продукцию и сильно влияют на состояние нашего здоровья, особенно на понижение иммунитета у детей. Сегодня, когда в питании деток в основном используются молочные продукты, полученные от коров сельхозпредприятий, наблюдается снижение иммунитета детей. Это прекрасно видят бабушки и дедушки, которые когда-то кормили своих детей молоком и молочными продуктами, полученными на собственном подворье.

## СПАСИБО РОССИЯНАМ И УКРАИНЦАМ

Для всех здравомыслящих людей, тем более имеющих соответствующее образование, постулат о том, что «в споре рождается истина» не вызывает сомнения. Похоже, что в полной мере он начинает действовать и в вопросе принятия реальных шагов со стороны соответствующих государственных структур Беларуси по борьбе с нарушениями требований законодательства в области санитарно-эпидемиологического благополучия населения. Согласно информации официальных СМИ и новостных сайтов Интернета, 21-23 января этого года Госветфитослужба Украины временно приостановила ввоз молочной продукции трёх белорусских производителей: ОАО «Бабушкина крынка», «Молочные продукты» и «Оршанского молочного комбината», мотивируя запрет несоответствием молочной продукции украинским нормам безопасности по микробиологическим и физико-химическим показателям. Под давлением этих обстоятельств с 31 января по 1 февраля в Институте мясомолочной промышленности (ИММП) был проведён научно-практический семинар на тему «Безопасность, качество молочных продуктов и санитарно-гигиеническое состояние организаций, осуществляющих переработку молока». Выступившая с докладом зам. начальника отдела переработки продукции животноводства Минсельхозпрода Л. Степаненко призналась: «Микробиология - это наша самая уязвимая позиция. Когда в молоко попадают антибиотики, то это показатель того, что имеются разрывы в цепочке контроля качества продукции: на ферме доят больную корову и отправляют молоко на молокозавод, где на этот факт закрывают глаза. Если продукция содержит антибиотики, то за это несёт ответственность молокоперерабатывающее предприятие», - сказала Л. Степаненко. И расставила акценты: «Оно должно работать по стандарту. Молоко, не соответствующее требованиям СТБ, приниматься на переработку не должно».

В середине февраля этого года на базе Белорусской сельхозакадемии в Горках состоялось очередное занятие специалистов зоотехнических служб Могилёвской области областного и районного подчинения. На учёбе присутствовал и выступил с докладом заместитель Министра сельского хозяйства и продовольствия РБ И. Брыло. По его информации, когда ОАО «Бабушкина крынка» «засветилась» в Москве, белорусская служба Госветнадзора её проинспектировала и выявила большое количество продукции с нарушением установленных к ней требований. А когда усилили контроль, то за три недели января вернули несколько партий «из-за чрезмерного наличия антибиотиков». «Мы столкнулись с неимоверной проблемой. Её надо решать. Россияне активно мониторят наши предприятия. И мы должны это понимать. Ведь 60 процентов молока поставляем на экспорт», - цитирует замминистра газета «Земля и люди» в статье «Технологический регламент требует качества» от 18 февраля.

Фактически получается, что только благодаря принципиальной позиции, занятой российской и украинской сторонами, наши белорусские службы стали говорить и что-то делать для реального обеспечения санитарно-эпидемиологического благополучия собственного населения. Однако заметим, что речь идёт о продукции, поставляемой на экспорт. А вот какого качества продукцию поставляет на прилавки жителей Могилёвской области ОАО «Бабушкина крынка» во главе с обласканным прессой директором А. Конончуком?

*Артём СЕМЁНОВ.*

# Як дзяржава зарабляе на незалежных СМІ

Кожны год незалежныя журналісты прыцягваюцца да адказнасці па ч. 2 арт. 22.9 КаАП "Незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ".

За тры месяцы бягучага года аштрафаваныя ўжо чатыры прадстаўнікі гэтай прафесіі: Алесь Ляўчук, Ларыса Шчыракова, Тамара Шчапёткіна, Аліна Літвінчук (двойчы). Для кожнага штраф у памеры ад 20 да 40 базавых велічынь.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" падлічыў, што агулам за 2014 і пачатак 2015 году незалежныя журналісты папоўнілі дзяржаўную казну на 79 мільёнаў 230 тысяч беларускіх рублёў. Можна меркаваць, што да канца года гэта сумма будзе толькі ўзрастаць.

*www.spring96.org/*




# Что движет современным чиновником?

Недавно зашел к районному чиновнику с небольшой инициативой по вопросам городской жизни. Услышав моё предложение, государственный служащий, с лицом, не терпящим возражения, постарался избавиться от меня, сославшись на занятость.

Наверно многим гражданам известно немало примеров, когда чиновники не только не стремятся поддержать какую-то либо инициативу «с низов», а даже наоборот, делают всё чтобы её сразу пресечь. Вот только несколько примеров. В Могилёвской области в начале 2000-х годов возникла гражданская инициатива «Асацыяцыя краязнаўцаў малых мястэчак Магілёўшчыны». Краеведы с районных городков и сельской местности один раз в год проводили в одном из районов краеведческие чтения. При этом от государства не требовали никаких материальных затрат на их проведения. Единственное, о чём просили краеведы у чиновников, предоставить им помещение при проведении очередной встречи. Поначалу, такие встречи прошли в Белыничах, Краснополье, Климовичах и в Шклове.

Движение, направленное на изучение своего прошлого и настоящего ширилось, вовлекая в свои ряды новых исследователей своей Малой Родины. Но в дальнейшем, обратившись с аналогичным предложением к руководству Осиповичского района, краеведы получили отказ на проведение таких чтений. Хорошая и востребованная инициатива, в лице государства, не была поддержана и в скорости погибла.

Общественность Шклова неоднократно обращалась с инициативой к местной власти с предложениями о более эффективном использовании главного историко-культурного бренда города – комплекса бывшей городской ратуши. Однако ни одно из предложений до настоящего времени чиновниками не реализовано.

Шкловская районная организация общества белорусского языка обратилась в райисполком с предложением присвоить одной из новых улиц города имя писателя Михася Зарецкого, чьё детство прошло в пригороде Шклова – инициатива полностью проигнорирована.

История знает примеры, когда инициатива вообще наказуема или может крайне отрицательно повлиять, например, на производственную деятельность. Ветераны одного из предприятий Шклова вспоминают как после приезда в коллектив высокопоставленного чиновника из Минска, руководитель, вместо того, что бы направить дальнейшую работу коллектива на устранение отмеченных при посещении недостатков, почти неделю, в «самых горячих тонах» проводил дознание среди своих подчинённых на предмет одной «пикантной» инициативы.

А случилось следующее. В завершении рабочего дня, по приглашению данного руководителя, минский чиновник согласился поужинать «на природе». Когда, по словам известного артиста Владимира Высоцкого, «веселье дошло до точки», кто-то из участвующих в данном ужине, предложил: «Давайте прыгать через костер». И случилось самое непредсказуемое – именно высокопоставленный чиновник данное физическое упражнение совершил не совсем надлежащим образом и приземлился прямо в костёр. Весьма очевидно, что чиновник очень уж был «уставший».

Поднялся страшный переполох со всеми вытекающими последствиями. С этого момента и в течение последующих нескольких дней, ни о каком производственном процессе участвующая в ужине свита и думать не могла. Но и выявить инициатора «языческого обряда», так и не удалось. «Свита» своего не сдала. Но ведь подобные или почти подобные явления по-прежнему имеют место в нашей жизни.

А теперь представьте себе ситуацию, когда вы приходите к чиновнику не с инициативой, а уже с личной «большой» просьбой. И чиновник приветлив, и обещает обязательно помочь, но при этом объясняет, что решение данного вопроса требует многих усилий и даже при этом он (чиновник) лично рискует своей должностью.

Так что же движет современным чиновником и что же творится у него в голове? Для любознательного социолога такой трудный объект, как бюрократ начала XXI в., — что красная тряпка для быка. Литературный герой Акакий Акакиевич, несомненно, отличается от чиновника нашего времени. Старый чиновник и непрофессионал, и взятки брал слишком «нахраписто». Нынешний бюрократ играет в команде. Главное, что удерживает его от самодеятельности, - лояльность шефу и страх, что ошибкой воспользуются конкуренты, чтобы вытеснить его лично с занятых позиций. Общественное мнение, пресса, бизнес в глазах современного чиновника только инструменты и самостоятельной силы не имеют.

Обследование делового климата в европейских государствах, спонсированное Всемирным банком, показало, что коррупция становится все более серьезной помехой для ведения бизнеса в соседней России: в 2002 г. она была препятствием для 30% предприятий, а в 2005 г. - для 40%. Думается и Беларуси, коррупция становится так же всё более серьёзной помехой.

Почему они так скверно работают? Ведь если чиновники некомпетентны, плохо мотивированы, масштабных провалов государства не избежать. Современные исследования показывают, что отличительная характеристика современной бюрократии - «командность». Сейчас своя команда есть не только у президентов, но и у руководителя любого уровня, включая самого последнего звена. С развалом СССР номенклатурные связи порвались, состав бюрократии сильно обновился. Типичный чиновник предыдущего десятилетия был индивидуалистом и злоупотреблял на свой страх и риск.

Но индивидуальные предприниматели на госслужбе вымерли, как динозавры. Вместе с экономической стабилизацией «устаканилась» и бюрократия, где сегодня доминирует командный принцип коррупции, а низшая форма взятки - налом - практикуется все реже. Грязную работу делают подчиненные, на что шеф, заинтересованный в лояльности нижестоящих, в самом приличном случае смотрит сквозь пальцы. Берут низшие, а высшее руководство, как выразился один респондент, «витает в качестве предпосылки”».

Ограничить аппетиты одной команды способна только другая, конкурирующая группа чиновников. Актуальные в других странах внешние сдержки и противовесы - закон, общественное мнение, пресса, бизнес - для нашей бюрократии просто не существуют. Точнее, существуют не как сдержки, а как инструменты.

Общественное мнение - тоже мираж. А какие-то слухи, сплетни, которые распространяются на неформальном уровне, - это не являлось и не является фактором страха для чиновников. Мнение общества, какая-нибудь статья в прессе, даже весьма конкретная, на судьбе чиновника почти не отражаются. Напишет какая-нибудь газета, особенно «нехорошая», что этот человек взяточник, - ну и что? Он как работал, так и работает.

Инициатива снизу вообще никак не учитывается. Индивидуальная инициатива называется жалобой. Да, теперь у народа нет повода для массового недовольства, поэтому любые “протестники” в глазах чиновника - это или хулиганы, или подкупленная массовка.

Самоупоение чиновничества не способны поколебать и представители бизнеса. Предприниматели зависят от государства и сами напрашиваются на сотрудничество. Ведь взятки не просят, их «предлагают».

Бюрократия в первую очередь заинтересована в постоянном увеличении своего влияния и богатства.

Система «окуклилась» и нацелена только на самовоспроизведение. Привести в чувство самодостаточную бюрократию способно только появление сильных противовесов в виде свободной прессы, независимых судов и верховенства закона. Эти основные истины должны созреть в сознании всего нашего общества. В противном случае всё будет по-прежнему.



*Александр ГРУДИНО.*

## ШТО ПРАСЦЕЙ АДКРЫЦЬ У БЕЛАРУСІ: ВЫДАВЕЦТВА ЦІ КАЗІНО?

**Што трэба зрабіць для атрымання ліцэнзіі на адкрыццё казіно:**

**1. Атрымаць згоду мясцовага выканкама на размяшчэнне казіно.**

**2. Атрымаць акт мясцовага органа ўнутраных спраў "пра абследаванне памяшкання".**

**3. Падаць дакументы ў Міністэрства па падатках і зборах.**

**4. Атрымаць ліцэнзію могуць толькі юрыдычныя асобы. Кіраўнік такой арганізацыі абавязаны мець не менш трох гадоў стажу ў сферы гульнявога бізнесу альбо быць індывідуальным прадпрымальнікам**

**Што трэба зрабіць для атрымання ліцэнзіі на выданне кніг:**

**1. Ліцэнзію на выдавецкую дзейнасць выдае Міністэрства інфармацыі.**

**2. Атрымаць яе можа юрыдычная асоба, зарэгістраваная ў Беларусі, індывідуальны прадпрымальнік, а таксама замежная юрыдычная асоба або замежная арганізацыя.**

**3. Асоба, адказная за арганізацыю выдавецкай дзейнасці, абавязана здаць кваліфікацыйны экзамен.**

**Асаблівая экзаменацыйная камісія складаецца ў Мінінфармацыі, у яе ўваходзяць сем чалавек.**



# Не мытьём – так катаньем

**В** нашем Круглом, как и везде, во всём виноваты дураки и дороги. Не было бы дорог – не было бы и заборов вдоль них. А значит не было бы и дураков, для которых заборы стали проблемой номер один.

В тот знаменитый год наведения порядка на земле, новый председатель Круглянского райисполкома не только спилил деревья в Круглом и на районе вдоль дорог, но и дал указ загородить главную улицу Советскую новым забором. Дизайн был выбран "охрененный"! А цвет соответствовал творческим способностям чиновников. И это деревянное чудо искусства протянулось на три с половиной километра (такова протяжённость Круглого), поражая всех серым цветом. На склонах это сооружение как-то несимметрично (потому, что имело выступающие конструкции вверху) «перекосоёб…лось», и под забором могла пробежать не только курица, но и собака. Поэтому жильцы «осчастливленных» домовладений заделывали дыры, кто чем мог.

Надо вам сказать, что в ранее поставленных хозяевами заборах столбы были железобетонные, т.е. вечные. Но их изымали вместе с ветхим забором, а иногда и хорошим, и увозили на территорию ЖКХ. Где всё незаметно раскрадывалось. Круглянское «царское село» обзавелось заборами почти бесплатно, хоть, скажу я вам, там живут не самые бедные люди. Попутно исчез в неизвестном направлении и металлический забор, которым был обнесён центральный парк. По самым скромным подсчётам, на территорию ЖКХ было завезено более 3 000 железобетонных неучтённых столбов. Почему неучтённых? Потому что если бы их пересчитали, то вряд ли можно было бы их приобрести у рабочих, изымающих их у хозяев.

Но время шло и, не пощадив трудов работников ЖКХ, заборы обветшали. А так как они были установлены на деревянных столбиках, не обработанных внизу раствором от гниения, то улица Советская через десять с небольшим лет стала иметь вид запустения и нищеты. И тогда владельцам домов было «предложено» самостоятельно установить железобетонные заборы, произведённые в местном райбыткомбинате. Таким образом руководство района хотело забить двух зайцев: 1. Заменить, позорящий их и Круглое, забор на центральной главной улице, 2. Поддержать «штаны» разоряющемуся комбинату

Для этого каждому хозяину, чей дом находился на главной улице городского посёлка, были разосланы бумажки с требованием заменить забор, а также рекомендации, какой забор необходимо установить. Хозяева, посчитав стоимость ограждения, схватились за голову. Из семейного бюджета на украшение Советской улицы необходимо было потратить в среднем около 8 миллионов рублей, что при средней заработной плате в 2 миллиона, надо было полгода не есть и не пить ради общественного забора. И многие люди своё согласие не дали и забор менять не стали.

И тогда районные руководители пошли «на крайние меры». Они снесли обветшавший забор и вывезли его снова на территорию ЖКХ. И теперь главная улица г. п. Круглое приобрела вид бомжатника. Наверное, руководство решило, что люди всё равно вынуждены будут загородиться по весне. Но тогда, господа, верните заборные столбики - в своё время они приобретались на личные деньги жителей данной улицы.



И в заключение хочется сказать: желание выслужиться иногда вылазит боком: чиновники, решающие сиюминутные проблемы, не только не умеют считать государственные деньги, но ещё и попутно стараются залезть в карман обывателей. Странно также и другое, что все тогда промолчали, не потребовали отдать своё обратно, хотя и знали, что деревянный забор – явление временное. Вот и получается, что сами себя наказали. А ведь можно было и тогда решить этот вопрос по-хозяйски: выделить часть денег, потраченных на установку деревянного забора, каждому хозяину и обязать самостоятельно установить забор, который бы отвечал бы и по эстетике, и по качеству. И хозяин, потратив на забор и свои деньги, и свой труд, не отнёсся бы так халатно к своему имуществу. Он бы за ним ухаживал. А так получилось, что его не только ограбили, присвоив железобетонные заборные столбы, но ещё и сейчас стараются залезть к нему в карман, решая не его, а свои, чисто чиновничьи вопросы.

В общем, всё, как всегда - люди остались в дураках. И мне мало вериться, что улица Советская украсится новым железобетонным забором. Скорее всего, кто как сможет, так и отгородится. Потому что легче найти кота в тёмной комнате, даже если его там нет, чем заставить человека, не имеющего средств, потратиться на не его, в общем-то, проблемы.

*Зинаида МИЛЕЩЕНКО.*

**Магілёўскі ВЫБАР**

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 213155, Магілёўская вобласць, Магілёўскі раён, в.Брылі, вул.Юбілейная, 6-7. Тэл. 8-0222-710451
E-mail: mikolabryl@gmail.com. Выдавец Яцкова Ала Міхайлаўна. Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 08.04.2015 г. у 10.00.